№ 21(144)

# ПАХОДНЯ

Грамадска-палітычная газета

Снежань 2012 г.

## У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ МАЛЫХ ДЗЯЦЕЙ АБАВЯЗАЛІ ЗДАВАЦЬ МАКУЛАТУРУ І МЕТАЛАЛОМ

***Кожны вучань сярэдняй школы № 1 гарадскога пасёлка Бялынічы ў незалежнасці ад узросту і класа навучання ў абавязковым парадку павінен прынесці ў школу пяць кілаграмаў макулатуры і кілаграм металалому. Пра тое, што адпаведнае заданне было даведзена да дзяцей адміністрацыяй СШ № 1, паведамілі бацькі вучняў.***




"Сын паставіў мяне перад фактам: я павінен знайсці яму пяць кілаграмаў макулатуры і кілаграм металалому, бо адпаведны план на кожнага вучня давялі ў школе № 1, дзе ён вучыцца, - распавядае бацька аднаго з бялыніцкіх школьнікаў. – Калі шчыра, то больш бязглуздага загаду ўявіць нават цяжка. Калі школьнік нейкую макулатуру ўсё ж можа знайсці дома, то дзе ён возьме металалом - абсалютна незразумела. Пойдзе дзесьці штосьці выламае ці скрадзе? Бо ў Бялынічах металалом на вуліцах не валяецца. Мы таксама ў савецкія часы школьнікамі збіралі макулатуру, аднак ніхто нам ніякіх планаў не даводзіў, прыносілі з дому хто колькі мог".

Яшчэ больш важкае заданне мясцовы аддзел адукацы Бялыніцкага райвыканкама даў супрацоўнікам і выхаванцам дзіцячага садка ў аграгарадку Вялікая Машчаніца. Праўда, металалом тут маленькіх дзяцей збіраць не прымушалі, аднак давялі ўстаноўку – кожны супрацоўнік дзіцячага садка павінен сабраць і здаць 17 кілаграм макулатуры, ну а кожны іх маленькі выхаванец атрымаў яшчэ большую нагрузку – здаць 25 кілаграм макулатуры. Наколькі нам стала вядома, работнікі дзіцячага садка свой план выканалі, іх выхаванцы пакуль не ўсе здалі патрэбную колькасць макулатуры. Між тым у дзіцячы садок ходзяць дзеці да пяцігадовага ўзросту, больш старэйшых дзетак з-за недахопу месцаў у садку ў Машчаніцы возяць у Бялынічы.

Дарэчы, свой загад аб неабходнасці здачы такой вялікай колькасці макулатуры чыноўнікі ад адукацыі патлумачылі неабходнасцю дапамогі ў забеспячэнні рэсурсамі папяровай фабрыцы ў Шклове.

Зразумела, што выкананне гэтай важкай задачы без выхаванцаў дзіцячага садка забяспечыць нельна ніякім чынам …

***Сяргей Семяновіч***

### Цифры и факты

Средняя зарплата в октябре: 4 228 447 рублей

Минимальная заработная плата: 1109120 рублей

Тарифная ставка первого разряда: 225 000 рублей

Бюджет прожиточного минимума: 880 030 рублей

Минимальный потребительский бюджет для семьи из четырех человек: 1 391 530 рублей

Базовая величина: 100 000 рублей

## ЖИТЕЛЬ БЕЛЫНИЧСКОГО РАЙОНА ИЗНАСИЛОВАЛ 93-ЛЕТНЮЮ БАБУШКУ




***Молодой 22-летний парень, проживающий в д. Ермоловичи Белыничского района Могилевской области, подозревается в изнасиловании 93-летней старушки.***

Как сообщили "Ежедневнику" в правоохранительных органах, по факту изнасилования пенсионерки Горецким районным отделом Следственного комитета в отношении молодого парня возбуждено уголовное дело по признакам преступления, предусмотренного ч. 2 ст. 166 Уголовного кодекса Беларуси (изнасилование, совершенное повторно, либо группой лиц, либо лицом, ранее совершившим действия, предусмотренные статьей 167 настоящего Кодекса, либо изнасилование заведомо несовершеннолетней), которая предусматривает наказание до 13 лет лишения свободы.

Как пояснили "Ежедневнику" в правоохранительных органах, молодой парень и раньше имел проблемы с законом и уже был судим за кражу и угон. Кроме того, 93-летняя старушка не единственная пострадавшая от сексуальных страстей подозреваемого. В деле фигурируют и другие пострадавшие.

***Ежедневник***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ІГАР СІМБІРОЎ ПРАЦЯГВАЕ ЗАМАГАЦЦА ЗА ГІТАРУ




*Ігар Сімбіроў*

Музыкант з Асіповічаў Ігар Сімбіроў 22 лістапада зноў звярнуўся ў КДБ з патрабаваннем вярнуць канфіскаваныя пасля Плошчы-2010 гітару, нэтбук і прыватныя дзённікі. Супрацоўнік прэс-службы КДБ Аляксандр Антановіч не здолеў даць адказу на канкрэтнае пытанне музыканта - калі яму вернуць яго асабістыя рэчы.

“Я спрабаваў датэлефанавацца ў розныя аддзелы цэнтральнага КДБ на працягу трох дзён, аднак ніякія нумары супрацоўнікаў гэтай установы чамусьці не адказвалі, - распавядае Ігар Сімбіроў. – У мяне з’явілася спадзяванне, што са зменай кіраўніцтва ў КДБ мне ўсё ж вернуць мае рэчы, канфіскаваныя падчас вобшуку ў снежні 2010 года”.

Сімбіроў 22 лістапада на працягу доўга часу спрабаваў датэлефанавацца ў прыёмную, кансультантам, аднак слухаўку зноў нідзе не здымалі.

“Тады я звярнуўся на тэлефон даверу КДБ і запытаўся ў свайго суразмоўцы, чаму ў іх не адказваюць на званкі. Супрацоўнік камітэту адказаў, што ў іх усе знаходзяцца на месцы і на тэлефанаванні павінны адказваць. Пасля гэтага, каля 15-00, я набраў нумар ужо супрацоўніка прэс-службы камітэта Антановіча Аляксандра Аркадзьевіча. У нас з ім адбылася такая размова: “Можа, са зменай улады КДБ верне мне тое, што скрала ў 2010 годзе - гітару, кампутар, дзённікі?” Ён спачатку маўчаў як рыба аб лёд, а потым кажа: “Не знаю, что вам посоветовать”. Я яму: “Дык у вас як быў разброд і шатанне, так зараз і працягваецца?”. “Без комментариев”, - адказаў ён і паклаў слухаўку”.

Па словах Ігара Сімбірова, ён не спыніцца да таго часу, пакуль не дамажацца справядлівасці ў гэтай справе.

Нагадаем, падчас падзей 19 снежня 2010 года Ігар Сімбіроў знаходзіўся ў калоне прыхільнікаў тагачаснага апазіцыйнага кандыдата Уладзіміра Някляева, на якую напалі “невядомыя асобы” ў чорным . У ноч з 19 на 20 снежня 2010 года яго затрымалі ў Мінску. Згодна з рашэннем суда Ігар Сімбіроў адседзеў 15 сутак у жодзінскай турме за ўдзел у падзеях на Плошчы. Падчас яго знаходжання пад адміністратыўным арыштам у кватэры, якую ён здымаў у сталіцы, супрацоўнікі праваахоўных органаў правялі ператрус і забралі з асабістыя рэчы Ігара (нэтбук, гітару і прыватныя дзённікі), якія ён не можа вярнуць ужо амаль два гады.

***Віктар Баравікоў***

## РАЗРЫВ В ЗАРПЛАТЕ МЕЖДУ МИНСКОМ И ПРОВИНЦИЕЙ СОСТАВЛЯЕТ 200 ДОЛЛАРОВ

В Беларуси начисленная средняя заработная плата работников в октябре составила 4,228 млн рублей, увеличившись по сравнению с сентябрем на 3,2%, или на 131,7 тыс. рублей, рабочих и служащих – 4,252 млн рублей (в сентябре– 4,118 млн рублей). Об этом сообщили в Национальном статистическом комитете. Таким образом, средняя зарплата по стране составила 496 долларов.

Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников в январе-октябре составила 3,59 млн рублей.

Наибольшая средняя зарплата по стране в Минске – 5,43 млн рублей. По областям средние зарплаты составляют: в Брестской области – 3,74 млн, Витебской – 3,77 млн, Гомельской – 4,03 млн, Гродненской – 3,85 млн, Минской – 4,19 млн, Могилевской – 3,89 млн. Таким образом, разрыв в средних зарплатах между Минском и Брестской областью, где средняя зарплата наименьшая по стране, составляет 1,66 млн рублей, или 200 долларов.

## МОГИЛЕВСКИЙ ХУДОЖЕСТВЕННЫЙ МУЗЕЙ БЕЛЫНИЦКОГО-БИРУЛИ ВСКОРЕ ОБРЕТЕТ НОВЫЙ ОБЛИК

4 миллиарда белорусских рублей планируется выделить из республиканского бюджета в 2013 году филиалу Национального художественного музея Беларуси художественному музею Бялыницкого-Бирули на реставрационные работы. Масштабный проект по реконструкции одного из уникальных музеев страны, возможно, начнется уже будущей весной. Сейчас ведутся переговоры о том, каким образом осовременить здание 17 века, сохранив при этом его колорит и атмосферу, отмечает заведующая музеем Белыницкого-Бирули Наталья Статуева. Планируется, что на первом этаже реконструированного музея разместится большой выставочный зал. На втором будет находиться постоянная экспозиция картин самого художника, а на третьем этаже появится современный лекционный зал, оснащенный по последнему слову техники, сообщает ТРК “Могилёв”

## Кража в Быхове

25 ноября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении жителя г. Быхова 1982 г.р., неработающего, ранее судимого за неуплату алиментов, который 16 ноября около 15-00 из дачного дома местного жителя 1988 г.р. по ул. Советской похитил телевизор, DVD-проигрыватель. Похищенное изъято. Мера пресечения не избиралась.

# РЕЗНЯ В МОЩАНИЦЕ



17 ноября в 16-00 в Белыничскую ЦРБ с ножевым ранением в живот, раной плеча из своего дома в д. Большая Мощаница Белыничского района бригадой СМП была доставлена и госпитализирована гражданка 1978 г.р., неработающая. Установлено, что 17 ноября около 14-30 по месту жительства, в ссоре, телесные повреждения причинил сожитель 1968 г.р., не судимый. 22 ноября Белыничским районным отделом Следственного комитета возбуждено у/д по ст. 147 ч. 1 УК (Умышленное причинение тяжкого телесного повреждения). Подозреваемый был задержан в порядке ст. 108 УПК, однако уже 25 ноября почему-то оказался на свободе.

Пострадавшая женщина и её гражданский муж переехали в Мощаницу несколько лет назад, администрация ОАО “Новая Друть” выделила семье благоустроенный коттедж. Между тем в семье воспитывалось трое маленьких детей, она находилась на учетё в качестве неблагополучной в районном отделе образования из-за асоциального поведения родителей. Почему многочисленные контролёры из райисполкома, отдела образования и милиции не смогли предотвратить трагедию – пока этот вопрос остаётся без ответа.

***Виктория Белова***

## Каб Лукашэнка не запэцкаў ног, на “Магілёўдрэве” асфальт кладуць у бруд

На ААТ «Магілёўдрэў» на ўсю моц рыхтуюцца да прыезду Лукашэнкі.

Кіраўніцтва прадпрыемства даручыла тэрмінова заасфальтаваць дарогі і правесці ўборку тэрыторыі. У выніку асфальт укладваюць прама ў бруд.

Пра гэта паведаміў чытач партала TUT.by, прыклаўшы да ліста фота.

На «Магілёўдрэў» інфармацыю аб чаканні прыезду Лукашэнкі пацвердзілі.

Нагадаем, на днях Рыгоравіч, разглядзеўшы з верталёта безгаспадарчасць на «Івацэвічдрэў», звольніў дырэктара прадпрыемства.

## На Могилевщине количество браков уменьшилось почти на 12%

На 6842 брака – 3317 разводов. Таковы данные ЗАГСов Могилевской области в январе-сентябре 2012 года.

По сравнению с соответствующим прошлогодним периодом количество зарегистрированных на Могилевщине браков уменьшилось на 11,7%, число разводов на 8,6% увеличилось, сообщает телерадиокомпания “Могилев” .

## НАЦБАНК ХОЧЕТ ЗАПРЕТИТЬ БЕЛОРУСАМ ОПЛАЧИВАТЬ ДОРОГИЕ ПОКУПКИ НАЛИЧНЫМИ

Это предложение озвучил заместитель председателя правления Национального банка Беларуси Сергей Дубков.

Нацбанк Беларуси предлагает законодательно установить требование об оплате в безналичном порядке в розничной торговле товара, работы или услуги, стоимость которых в 100 и более раз превышает размер базовой величины.

Также планируется исключить возможность выплаты потребителю наличных денежных средств в случае возврата товара (работы, услуги), оплаченного безналичными денежными средствами в сумме, в 100 и более раз превышающей размер базовой величины, пишет БЕЛТА.

В Италии введен запрет на оплату наличными покупок на сумму, превышающую 1000 евро, в Греции — на сумму свыше 1500 евро, во Франции — свыше 3000 евро, отметил Сергей Дубков.

При этом в Беларуси планируется расширить перечень объектов, в которых можно рассчитываться карточкой.

Также планируется организовать преимущественно круглосуточный доступ держателей карточек к оборудованию самообслуживания (инфокиоски, банкоматы). Будет проработан вопрос внедрения бесконтактных технологий при проведении населением расчетов в безналичной форме, включая вопрос оплаты проезда в общественном транспорте.

# ГОДОВОЙ ПРОГНОЗ РОСТА ВВП НЕ СПАСЕТ ДАЖЕ ПЕЧАТНЫЙ СТАНОК

***Глава государства требует от правительства выполнить запланированные показатели, в том числе по росту валового внутреннего продукта. Между тем при годовом прогнозе в 5-5,5% ВВП за 10 месяцев вырос всего на 2,2%.***

Нацбанк предупредил, что проводить эмиссию ради роста ВВП не намерен. Впрочем, даже эмиссия не спасла бы дело, утверждают эксперты.




Под занавес года вновь обострились противоречия по экономическим вопросам между правительством и президентом.

Выступая недавно на инвестиционном форуме, премьер-министр Михаил Мясникович констатировал, что реальный рост ВВП не совпадает с прогнозным.

Но, подчеркнул он, приоритетом для правительства сегодня является не количество, а качество.

“Мал золотник, да дорог — мы должны иметь реальный экономический рост. Мы полагаем, что в этом году белорусская экономика обеспечивает оздоровление, и главная цель остается в том, чтобы был стабильный экономический рост, реальный экономический рост”, — сказал руководитель правительства.

Глава государства думает иначе. Принимая Мясниковича с докладом 20 ноября, Александр Лукашенко сбил рыночный запал премьера и в категоричной форме потребовал обеспечить выполнение всех показателей 2012 года, особенно — по росту ВВП.

“Вчера мы такой разговор начали с министром экономики и помощником по экономике (Николаем Снопковым и Петром Прокоповичем. — И.Л.). Оказывается — полный разброд и шатание, — возмутился Лукашенко. — Говорят, главное — это экспорт, а ВВП — это неважно. Я понимаю, что экспорт для нас — это жизненно важный показатель, но без ВВП не будет и больших объемов экспорта”.

“Наша экономика такова, что если экспорт или ВВП побольше надо, то и импорт будет вырастать, — пояснил свою логику глава государства. — Ну так у нас есть добавленная стоимость, давайте будем производить товары с большей прибылью. Не страшно, что импорт возрастет, главное — чтобы экспорт соответственно потом вырос, чтобы мы не только компенсировали затраты по импорту, но и получили хорошую добавленную стоимость”.

На доклад Мясниковича были приглашены руководитель Администрации президента Андрей Кобяков и помощник главы государства по экономике Петр Прокопович. “Чтобы услышать оппонирующую правительству точку зрения”, — пояснила президентская пресс-служба.

Группа поддержки премьера состояла из министра экономики Николая Снопкова и главы Минфина Андрея Харковца.

Упоминание «оппонирующих» мнений в сообщении пресс-службы, которая обычно сор из избы не выносит, дает основание предполагать, что разногласия между Администрацией президента и правительством относительно экономической политики достаточно серьезны.

К слову, противостояние экономических группировок правительства и Администрации президента напоминает события годичной давности.

Тогда при разработке прогнозных параметров на 2012 год Совмин решил отказаться от эмиссионной политики, а также сделать ставку не на количество, а на качество. Рост ВВП прогнозировался на уровне 1-1,5%.

По мнению аналитиков, тогда правительство вплотную подошло к тому, чтобы направить экономический курс в русло рыночных реформ. Но реформистские планы были на корню пресечены президентом — он потребовал выполнения программы, одобренной Всебелорусским народным собранием накануне президентских выборов 2010 года.

В итоге прогноз роста ВВП был искусственно увеличен до 5-5,5%.

А сегодня Лукашенко винит правительство в невыполнении прогноза.

Совмин расхлебывает последствия собственной трусости и непоследовательности, считает бывший председатель правления Национального банка Станислав Богданкевич.

“Правительство само виновато, и пусть несет ответственность за то, что не имеет силы воли противостоять давлению главы государства”, — заявил эксперт в интервью для БелаПАН.

*(Начало. Оконч. на стр. 5)*

# ГОДОВОЙ ПРОГНОЗ РОСТА ВВП НЕ СПАСЕТ ДАЖЕ ПЕЧАТНЫЙ СТАНОК

*(Оконч. Начало на стр. 4)*

Богданкевич не исключает очередных кадровых перестановок в экономическом блоке правительства и отставки премьер-министра. Впрочем, добавил он, в Беларуси даже отставка всего правительства ни на что не способна повлиять.

“У нас ненормальна сама политическая система, — убежден бывший руководитель Нацбанка. — В других странах премьер-министры имеют свои программы, а наш Совет министров слепо выполняет указания президента. Вот взяли с потолка пятипроцентный рост ВВП — и выполняй, как хочешь. Лукашенко нанимает чиновников, которые ему подпевают, вынуждает их принимать невыполнимые программы, а затем — выгоняет, сваливая на министров ответственность за собственные ошибки. После этого нанимает новых — и все пошло по кругу”.

Что касается распоряжений Лукашенко относительно ВВП, то по итогам своего доклада 21 ноября Мясникович заверил: все поручения главы государства будут безусловно выполнены.

Каким образом — пока непонятно. По словам экономистов, нарастить объем ВВП можно только за счет внутренних инвестиций, но это неизбежно приведет к росту инфляции (по итогам 10 месяцев она составила 18,1% при годовом прогнозе 19-22%).

К тому же председатель Нацбанка Надежда Ермакова 21 ноября однозначно заявила журналистам: проводить эмиссию для достижения прогнозных параметров валового продукта не планируется. “Мы не имеем права делать эмиссию и не будем ее делать”, — подчеркнула Ермакова.

Профессор Богданкевич, в свою очередь, утверждает: “За полтора месяца до конца года даже эмиссию проводить уже бесполезно — никакого роста все равно не будет”.

В ближайшее будущее экс-глава Нацбанка смотрит “с большим пессимизмом”, однако прогнозировать развитие ситуации более конкретно затрудняется.

“Делать прогнозы можно, опираясь на реальные ресурсы. Но прогнозировать что-либо в условиях нездоровой экономики и волюнтаристской политики белорусского руководства невозможно”, — утверждает Станислав Богданкевич.

***“Белорусские новости”***

# СТАНИСЛАВ БОГДАНКЕВИЧ: СОЗДАТЬ ЕДИНУЮ ВАЛЮТУ СЕГОДНЯ МОЖНО, НО НЕ НУЖНО




Интеграция Беларуси, России и Казахстана в рамках создаваемого Евразийского Союза неминуемо поставит вопрос о введении единой валюты.

Однако готов ли пойти на такой шаг Александр Лукашенко?

Этот вопрос корреспондент UDF.BY адресовал бывшему главе Национального банка Беларуси Станиславу Богданкевичу.

“Создать единую валюту сегодня можно, но не нужно, так как это ведет к утрате политического суверенитета Беларуси, - убежден эксперт. - Введение единой валюты для Беларуси – политический шаг. И он должен стать итогом экономической интеграции.

Опыт Европы показывает, что при этом в значительной степени должны быть объединены финансовые системы, должны выработаться общие подходы к социальной политике и так далее”.

По словам Богданкевича, сам он является противником создания наднациональных органов.

“Переход на единую валюту в отношениях с Россией - это политическая утрата суверенитета, - говорит экс-глава Нацбанка. - Смотрите, за исключением бензина, керосина, калийных солей, весь белорусский экспорт ориентирован на Россию: в Россию идет 92% молока, 96% мяса, 90-95% всего экспорта идет в Россию. Мы уже сегодня являемся придатком России. Поэтому если в отношениях с Россией мы пойдем на единую валюту, мы потеряем свой суверенитет”.

При этом эксперт отмечает, что для введения единой валюты, необходимо объединить бюджеты стран-участниц Союза.

“Печальный опыт Греции показывает, если при наличии общей валюты дефицит бюджета страны равен двум, а то и трем годовым ВВП, приводит к разрушению всей монетарной системы. Сейчас в Беларуси средняя зарплата около 400 долларов, в России – 800. Единой валюты мало, чтобы выровнять уровень жизни в Беларуси и России. Более того, литовцы, поляки, не входящие в состав Таможенного союза и не имеющие природных ресурсов, имеют уровень жизни куда выше, чем в России. Можно перейти на единую валюту, но не нужно – иначе мы потеряем свой суверенитет”, - резюмировал Богданкевич.

***Глеб Хмельницкий, UDF.BY***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЗА ШТО БЯЛЫНІЦКАЯ РАЁНКА ХВАЛІЦЬ “БЕЛУЮ РУСЬ”?




Бялыніцкая раённая газета “Зара над Друццю” (№ 89 ад 21 лістапада) змясціла хвалебны артыкул “Белая Русь” упрыгожвае Беларусь”, у якім старшыня раённай арганізацыі “Белай Русі” Лідзія Шчацінка з імпэтам распавядае пра тое, як добра члены арганізацыі працуюць на карысць простых людзей у раёне і краіне цалкам.

Можна пагаджацца ці не пагаджацца з меркаваннем журналістаў бялыніцкай раёнкі, што менавіта “Белая Русь” вельмі ўпрыгожыла сваім існаваннем нашу родную краіну, аднак вельмі здзіўляе тое, што “Зара над Друццю” чамусьці пастаянна бачыць станоўчае толькі ў дзейнасці праўладных арганізацый.

У прыватнасці, газета прыводзіць палымяныя словы старшыні раённай арганізацыі “Белая Русь” Лідзіі Шчацінкі, што ў “раённую арганізацыю РГА “Белая Русь” уваходзяць 418 ініцыятыўных жыхароў Прыдруцкага краю, якія аб’яднаныя ў 42 пярвічкі… За час свайго існавання члены арганізацыі актыўна ўдзельнічалі ў розных акцыях і мерапрыемствах, на якіх заахвочвалі каштоўнымі падарункамі маці, чые дзеці дасягнулі добрых вынікаў у спартыўных спаборніцтвах і інтэлектуальных гульнях, заслужаных настаўнікаў, перадавікоў народнай гаспадаркі, аказвалі дапамогу ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, дзецям-інвалідам… Думаю, што пасля прайшоўшага з’езда нашы рады значна папоўняцца”.

Пакінем па-за рамкамі матэрыяла тое, наколькі актыўна члены раённай арганізацыі “Белай Русі” удзельнічалі ў разнастайных грамадскіх мерапрыемствах, адзначым толькі той факт, які ні для каго ў Бялыніцкім раёне не з’яўляецца сакрэтам. Большасць бялынічан выдатна ведае, якім чынам прырастаюць шэрагі членаў раённай арганізацыі “Белай Русі”: кіраўніцтва мясцовай “вертыкалі”дае неафіцыйны загад адміністрацыям устаноў і прадпрыемстваў, і людзі пад прымусам уступаюць у праўладную арганізацыю. Таму і не дзіўна, што найбуйнешыя пярвічкі “Белай Русі” у Бялыніцкім раёне створаны ў мясцовым райвыканкаме і ўстановах, падначаленых раённаму аддзелу адукацыі. Між тым старшыня Бялыніцкай раённай арганізацыі “Белая Русь” Лідзія Шчацінка адначасова з’яўляецца начальнікам аддзела адукацыі Бялыніцкага райвыканкама. Цікавае супадзенне, ці не праўда?

Эфектыўнасць працы раённай арганізацыі “Белай Русі” на карысць людзей таксама магла б добра ахарактэрызаваць колькасць наведвальнікаў яе грамадскай прыёмнай, аднак лічба чамусьці ў матэрыяле не называецца. Магчыма, таму, што наведвальнікаў гэтых зусім няшмат, бо бялынічане не вераць, што праўладная арганізацыя ім чымсьці дапаможа ў вырашэнні іх праблем. Магу прывесці прыклад, які стаў вядомы мне, як журналісту, па суседняму Шклоўскаму раёну. Дык вось, на малой радзіме Аляксандра Рыгоравіча за дзесяць месяцаў 2012 года ў грамадскую прыёмную Шклоўскай раённай арганізацыі РГА “Белая Русь” за дапамогай у вырашэнні разнастайных пытанняў звярнулася толькі сем чалавек…

Здзіўляе таксама і пазіцыя раённай газеты “Зара над Друццю”, якая заўсёды знаходзіць месца на сваіх старонках, каб пахваліць “Белую Русь”, БРСМ, іншыя праўладныя арганізацыі. Альтэрнатыўныя дзеючай уладзе партыі і грамадскія арганізацыі калі і ўзгадваюцца, дык толькі ў негатыўным кантэксце. Між тым у раёне існуюць структуры партыі БНФ, кампаніі “Гавары праўду”, аргкамітэта па стварэнню Беларускай камуністычнай партыі працоўных, прафсаюза РЭП, іншых дэмакратычных арганізацый. Аднак для прадстаўнікоў гэтых арганізацый месца на старонках “Зары над Друццю” чамусьці не знаходзіцца. Між тым грошы ж на падтрымку газеты плацяць са сваіх падаткаў усе грамадзяне краіны, якія хочуць ведаць аб’ектыўную рознабаковую інфармацыю, а не думку на гэты конт чыноўнікаў з адміністрацыйнай “вертыкалі” альбо кіраўніцтва праўладнай “Белай Русі”. Ды і сярод падпісчыкаў “Зары над Друццю” ёсць людзі розных палітычных поглядаў і перакананняў.

Мне асабіста яшчэ больш сумна ад таго, што паважаная мной “Зара над Друццю” усё больш ператвараецца ў нейкі рэтранслятар думак чыноўнікаў з мясцовай ідэалагічнай “вертыкалі”, бо некаторыя з дзеючых журналістаў “Зары над Друццю” былі якраз сярод стваральнікаў першых дэмакратычных арганізацый у Бялыніцкім раёне ў 90-я гады мінулага стагоддзя…

# КОШТ БЕЛАРУСКАГА "ПАРАЦЭТАМОЛУ" ЗА ГОД ВЫРАС АМАЛЬ У ЧАТЫРЫ РАЗЫ

Імпартныя ж лекі з большага амаль не падаражэлі.

Фармацэўт дзяржаўнай аптэкі № 13 на пытанне Еўрарадыё, імпартныя ці айчынныя лекі купляюць беларусы, заўважае, што гэты выбар залежыць нават ад полу:

"Калі ідзе завоблачны кошт, тады выбіраюць беларускае. Мужыкі ўвогуле, ім грошай не шкада, яны просяць самае лепшае. Бабулькі і дзядулькі — адназначна, беларускія прэпараты бяруць".

Кошты на беларускія лекі ў рублях выраслі нязначна, але ў адсотках інфляцыя ўражвае: "Парацэтамол" з пачатку года падаражэў у 3,5 разы! Максімальная нацэнка на беларускія лекі не перавышае 30%, але фармацэўты часта зніжаюць надбаўкі. На той жа "Парацэтамол" ці "Арпетол" максімальная надбаўка зніжаная ў сярэднім на 12%.

"Парацэтамол з Барысава на пачатак года каштаваў 450 рублёў. З-за павелічэння адпускных коштаў Парацэтамол вырас у кошце ў 3,5 разы і цяпер каштуе паўтары тысячы. Барысаўскі завод Белмедпрэпараты не так даўно зноў аб'явіў пра павышэнне коштаў. Самі не ведаем чаго ад іх чакаць", — кажуць Еўрарадыё ў РУП "Белфарм".

Антыбіётык "Амаклаў" прывозіцца з Галандыі, тут толькі фасуецца. Але гэта ўжо лічыцца… беларускімі лекамі. Падаражаў сімвалічна:

"Амаклаў" у мінулым годзе каштаваў 72 тысячы рублёў, цяпер — 73 тысячы. Імпартныя лекі за кошт валютных ваганняў амаль не падаражэлі, толькі калі фірма сама змяніла прайс".

У Белмедпрэпаратах тлумачаць, што аб'явілі пра павышэнне коштаў толькі з адабрэння Міністэрства аховы здароўя і толькі на тыя лекі, выраб якіх стратны:

"Мы выходзілі з прапановай, павысіць кошты на стратныя лекі, кошт якіх значна ніжэйшы за адзін долар. Сыравіна часта на іх даражэйшая, чым самі лекі!"




Схема лячэння ад грыпу, па словах намесніцы галоўнага ўрача палiклінікі № 15 Мінска Галіны Віхаравай, выглядае стандартна:

"Антыбіётыкі назначаем толькі пасля ўскладнення. Спачатку хворым на грып мы прапісваем гарачкапаніжаючае і Арпетол, а таксама піццё. А потым, калі ёсць ускладненні, доктар глядзіць, што прапісаць, і звычайна гэта будуць антыбіётыкі з групы пеніцылінавых, а таксама адхарквальныя. Гэта мінімум".

Хварэць на грып абыдзецца дарослаaму каля 46 тысяч рублёў, калі ён будзе ўжываць толькі беларускія прэпараты. Запушчаны грып, для лячэнне якога патрэбныя антыбіётыкі і адхарквальныя, каштуе больш за 125 тысяч рублёў. У мінулым годзе такі ж набор лекаў абыходзіўся танней. На 10-15 тысяч.

## НЕЗАЧЕМ БОЛЕТЬ

Эпидемический подъем заболеваемости острыми респираторными инфекциями на Могилевщине прогнозируется в конце января – начале февраля 2013 года. Сейчас же, уверяют специалисты, эпидемическая обстановка в области ровная.

В период с 19 октября по 25 ноября 2012 года в области зарегистрировано 8 683 случая заболевания ОРИ. Показатель заболеваемости почти на четверть ниже уровня начала эпидемического подъема. Вируса гриппа не выявлено.

По данным на 26 ноября, в области привито более 35% населения. Вакцинация жителей области за личные средства граждан продолжается в поликлиниках по месту жительства.

## КАДРАВЫЯ ЗМЕНЫ

Галоўным санітарным ўрачом Бялыніцкага раёна назначана Алена Ігараўна Дамарацкая. Яна змяніла на гэтай пасадзе Жаўрыда Алега Яўгенавіча, які выйшаў на заслужаны адпачынак.

З 1997 года Дамарацкая Алена Ігараўна працавала ўрачом-гігіеністам раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, з 2004 – узначальвала аддзяленне гігіены гэтай жа ўстановы, паведамляе інтэрнэт-сайт belynichi.gov.by.

### Анекдот дня

*Многим людям удалось значительно улучшить свою жизнь благодаря лекарствам. Например, фармацевтам…*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## У МАГІЛЁВЕ АБМЕРКАВАЛІ, ЯК ЖУРНАЛІСТАМ СЯБЕ ПАВОДЗІЦЬ У КАНФЛІКТНЫХ СІТУАЦЫЯХ




23 лістапада ў Магілёве ў грамадскім цэнтры "Кола" адбылася прэзентацыя дапаможніка па бяспецы для беларускіх журналістаў "У зоне рызыкі" і дакументальнага фільма ўкраінскага кінарэжысёра Ігара Чайкі "Бяспека журналістаў. Украінскі практыкум".

Прэзентацыя была прымеркаваная да Міжнароднага дня за спыненне беспакаранасці злачынстваў супраць журналістаў, які адзначаецца з 2011 года па ініцыятыве Міжнароднай асацыяцыі ў абарону свабоды слова (IFEX). У межах мерапрыемства адбыўся тэматычны "круглы стол" на тэму журналісцкай бяспекі, удзел у якім прынялі больш за дваццаць журналістаў і грамадскіх актывістаў з розных рэгіёнаў Магілёўскай вобласці, а таксама супрацоўнікі мінскага офіса ГА "БАЖ" .

У якасці госця на журналісцкім мерапрыемстве ў Магілёве прысутнічаў украінскі журналіст і кінарэжысёр Ігар Чайка, які зрабіў для журналістаў Магілёўшчыны прэзентацыю свайго фільма, прысвечанага пытанню бяспекі журналістаў - "Бяспека журналістаў. Украінскі практыкум". Неабходна адзначыць, што прэзентацыя гэтага фільма ў Магілёве стала першай на тэрыторыі Беларусі.

Намеснік старшыні ГА "БАЖ" Андрэй Бастунец прэзентаваў для прысутных дапаможнік па бяспецы для беларускіх журналістаў "У зоне рызыкі". Ён адзначыў, што БАЖ зараз робіць упор не на небеспакаранасці злачынстваў супраць журналістаў, а на менавіта забеспячэнне бяспекі журналістаў, каб злачынствы супраць іх наогул не адбываліся. Андрэй Бастунец распавёў пра тое, што ў дапаможніку ў "Зоне рызыкі" сабраныя матэрыялы пра досвед тых журналістаў, якія самі непасрэдна сутыкаліся з пераследам, пагрозамі і ціскам. У дапаможніку даюцца канкрэтныя парады, як журналістам сябе паводзіць у канфліктных сітуацыях.

Удзельнікі сустрэчы абмеркавалі пытанні, як патрэбна дзейнічаць у выпадку ціску альбо пагроз, падзяліліся уласным досведам, паслухалі парады супрацоўнікаў офіса ГА "БАЖ" і свайго ўкраінскага калегі.

## БЕЛАРУСЬ - МИРОВОЙ АУТСАЙДЕР ПО ПОМОЩИ БЕЗРАБОТНЫМ

"Товарищ.online" сравнил размеры пособий по безработице в мире. Оказалось, что в нашем так называемом социальном государстве безработные точно не роскошествуют. Хуже только киргизам.

Начнем с самых респектабельных безработных. Так, в Дании пособие по безработице составляет 90% от зарплаты на последнем месте работы (получать можно в течение двух лет), в Финляндии - 85% от последней зарплаты (1,5 года), в Швеции - 80% на 10 месяцев.

В Голландии платят до 168 евро в день, в Бельгии - 60% от зарплаты на последнем рабочем месте (без ограничений по времени).

В Германии среднее пособие в пересчете на доллары составляет 2.340, в Португалии - 1.260, в Греции, стонущей от кризиса, - 480, в соседней Польше - 170 долларов.

США платят своим безработным 1.000 долларов, Япония - 2.400 в месяц.

Средний размер пособия по безработице в долларах США в странах постсоветского пространства:

Азербайджан - 210
Российская Федерация - 140
Казахстан - 120
Украина - 120
Грузия - 110
Молдова - 80
Беларусь - 15
Кыргызстан - 10

Цифры говорят сами за себя - и о социальной ориентации, и об уровне наших партнеров по ТС - России и Казахстане.

***Юлия Логинова,
"Товарищ.online"***

## ПОКА ХОЗЯИН СПАЛ НА ПЕЧИ, ГОРЕЛ ЕГО ДОМ В БЕЛЫНИЧСКОМ РАЙОНЕ

В Белыничском районе работники МЧС спасли человека: во время пожара мужчина спал на печи.

Пьяный хозяин спал на печи, когда 19 ноября после 16 часов приехали по вызову спасатели. Спасенный в госпитализации не нуждался.

Предполагаемая причина пожара – неосторожность при курении.

## ВОРУЮТ ВСЁ

26 ноября СК возбуждено у/д по ст. 214 ч. 1 УК (Угон транспортного средства) в отношении жителя г. Шклова 1985 г.р., неработающего, не судимого, который 16 ноября в 12-00 с территории КФХ «Садовое - Шклов» в д. Сосновка совершил угон трактора «МТЗ-82», принадлежащего указанному хозяйству. Мера пресечения не избиралась, сообщает интернет-сайт УВД Могилёвского облисполкома.

## Анекдот дня

*Некоторые люди, как письма. Пока не пошлёшь – не дойдёт!*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 01.12. 2012 г. у 11-00.